ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P. O. Box 178, Jamaica. N. Y. 11431

Год XXXI Но. 296 Нью Ёрк — студзень — 1982 — January — New York Vol. XXXI № 296

## КУПАЛА-КОЛАСАЎСКІ ГОД

Беларусь сёлета сьвяткуе вялікі юбілей — стагодзьдзе ад нараджэньня сваіх найбольшых Песьняроў: Янкі Купалы (нар. 7. VII. 1882) і Якуба Коласа (нар. 3. XI. 1882). Сёлета спаўняюцца таксама 40-я ўгодкі трагічнае сьмерці Янкі Купалы ў Маскве 28. VI. 1942 году — сьмерці, як выглядае, самагубнае, хоць ёсьць вэрсіі й пра забойства (у савецкім друку пра акалічнасьці Купалавае сьмерці маўчыцца, як маўчыцца пра ўсе іншыя ахвяры самагубства й дзяржаўнага тэрору).

У савецкай Беларусі даўно ўжо йдуць рыхтаваньні да купала-коласаўскага юбілею. Робіцца шмат чаго добрага й карыснага: патрыятычна настаўленая творчая інтэлігенцыя ды беларускае грамадзтва наагул імкнецца выкарыстаць магчымасьці, якія дае савецкая нацыянальная палітыка. Але ў існасьці — гэта палітыка русыфікацыі й выкарэньваньня духовае паўнавартаснасьці Беларусаў. Праводзіцца яна перш-наперш мэтадам прыхоўваньня фактаў ды выкручваньня й перакручваньня таго, чаго нельга прыхаваць. У моц гэтае палітыкі трымаецца пад забаронай і частка — колькасна хай сабе й невялікая, але якасна вельмі важная — творчае спадчыны Купалы й Коласа. У ходзе сёлетняга купала-коласаўскага году мы будзем мець нагоду пазнаёміцца-прыгадаць некаторыя з гэтых фактаў.

Галоўны націск у савецкай інтэрпрэтацыі Купалы й Коласа кладзецца на іхнае актыўнае, быццам-бы — дабраахвотна-энтузіястычнае! — падтрымваньне бальшавіцкае рэвалюцыі й савецкае ўлады. Без бальшавікоў, Саветаў і Масквы Купала й Колас, быццам-бы, і не ўяўлялі сабе Беларусі. Але пераконваць у гэтым можна толькі з цэнзурным нажом у руках. І нож гэты ніколі не пакідаў свае работы. Але нажом можна толькі выразаць тое, што было, нельга-ж ім урэзаць тое, чаго ня было.

Гэтак, прыкладам, нельга цьвердзіць, што Янка Купала належаў да Камуністычнае партыі, бо да Камуністычнае партыі Купала не належаў. А факт гэты, гэты антыфакт, вельмі шмат кажа пра Купалу.

Нельга таксама сказаць і пра Якуба Коласа, што ён належаў да партыі, калі пад належаньнем разумець камуністычныя пераканьні. Фармальна Якуб Колас увайшоў („уступіў", як у тым анэкдоце) у партыю ў лютым 1945 году, пад самы канец вайны ўжо, і гэта паказальна. Колас-жа, як тварэц несьмяротных літаратурных помнікаў, быў беспартыйны, а фактычна антыпартыйны. Колас лятуцеў разам із сваім Сымонам-Музыкам пра вольную Беларусь, разам зь Міхалам — пра Новую — сваю — Зямлю. А што ён пабачыў? —

Кавалі другія,
А ланцуг той самы...

Тое, што Купала й Колас з пашанай ставіліся да расейскае дэмакратычнае й свабодалюбнае літаратуры ды перакладалі Пушкіна й іншых расейскіх паэтаў, ня робіць зь іх духовых васалаў расейшчыны, якімі іх часамі паказваюць (паказвалі) некаторыя партыйныя інтэрпрэтатары. Мастацтва стаіць над палітычнымі й нацыянальнымі межамі. Кажнага праўдзівага мастака-гуманіста цікавіць і Ўсход і Захад дый тое, што далей за імі.

Купала й Колас былі пад уплывам суседніх літаратураў у моц гісторыі й геаграфіі, але тварылі яны ў імя Беларусі, у імя ейнага адраджэньня й духовае моцы, каб забясьпечыць сваёй Бацькаўшчыне „пасад між народамі". Як гэткіх мы іх і ўшаноўваем сёлета ў год іхнага стагадовага юбілею, у год юбілею духова ВОЛЬНАЕ БЕЛАРУСІ.

### ЗАБАРОНЕНЫЯ ТВОРЫ КУПАЛЫ

Параўнаньне зборніка выбранае паэзіі Янкі Купалы „Спадчына" (выдадзенага Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў мюнхэнскім выдавецтве „Бацькаўшчына" ў 1955 г.) ды савецкага трэйцяга паваеннага 7-томавага выданьня „Збору твораў" Я. Купалы (выд. АН БССР, Менск, 1972-76 гг.) паказвае, што савецкая цэнзура, як і ў папярэдніх двух паваенных шасьці-томавых выданьнях Купалавае літаратурнае спадчыны, не прапусьціла гэткіх твораў (у дужках, дзе ведама, падаецца год іхнага напісаньня):

**Вершы:**

Вялікдзень (1908); Тае сьнег; „Забраны край"; Над Нёманам; Зь мінуўшых дзён; Казка аб песьні; На рынку; Сярод разьюшаных сатрапаў (1914); У чужой старане; Наша гаспадарка (1918); Папросту; Беларушчына (1908); Годзе (1912); Паўстань з народу нашага (1919); Брату-Беларусу; Матцы; Жыды (1919); Чужым; Крыўда (1918); Новы Год (1919); Перад будучыняй (1922); Ой, вяду бяду; А ў бары, бары; Акоў паломаных жандар (1926); Каб (1926); Сьмейся! (1915); Сваякі (1914);

**Паэмы:**

На Куцьцю; Урывак з паэмы (1910); На Дзяды; Чараўнік.

Забароненая таксама Купалава сатырычная п'еса ў чатырох дзеях „Тутэйшыя", напісаная ў 1922 годзе.

Ёсьць яшчэ й іншыя забароненыя Купалавы вершы, якія былі недаступныя ўкладальнікам зборніка „Спадчына".

Апрача гэтага, сучасная савецкая цэнзура ня пушчае ў сьвет вершаў Купалы, напісаных пад прымусам, на ўслаўленьне „бацькі народаў" Сталіна. Але гэтыя вершы ня пушчаюцца ўжо дзеля зусім іншых матываў; яны кампрамітуюць партыю як гвалтаўніка свабоды творства.

### ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

Спасярод больш як 30-ёх забароненых у савецкай Беларусі твораў Янкі Купалы верш „Перад будучыняй" належыць да найбольш актуальных сяньня, бо й сяньня, як гэта відаць хоць-бы сабе із зьмешчанае ў гэтым нумары адозвы „Да праваслаўных Беларусаў" (Беласточчыны), ня скончылася „блуканьне ўдзень", шуканьне „таго, што наша ад вякоў". Шукаюць блукаючы сяньня на Беларусі і праўдзівага Янку Купалу, якога нельга поўнасьцяй пазнаць, не азнаёміўшыся зь ягонымі забароненымі творамі.

Праф. Антон Адамовіч у сваёй кнізе выдадзенай паангельску ў 1958 годзе, „Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры", гэтак піша пра верш „Перад будучыняй":

„Гэты верш быў упяршыню выдрукаваны ў вадзіным нумары часапісу ‚Адраджэньне', што меўся стацца органам Новага Адраджэньня. Два дні па тым, як часапіс выйшаў, ён быў, аднак, забраны з продажу, каб выразаць зь яго верш 'Перад будучыняй': гэта быў першы на Беларусі выпадак канфіскацыі цэнзурай. Бальшавіцкія крытыкі заўсюды ўважалі верш ‚Перад будучыняй' за найбольшы Купалаў ‚грэх', але ніколі не працытавалі зь яго аніводнага радка".

## „ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

### (ДА 100-Х УГОДКАЎ НАРАДЖЭНЬНЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА)

**(Працяг; пачатак гл. у №294-295)**

Як нацыянальна-грамадзкі працаўнік, „работнік грамадзянскі" Купалавае эпіграмы, Іван Луцкевіч найперш адзначаўся тым, што ўмеў знаходзіць і прыцягваць да сябе й да працы ў „беларускай справе" адпаведных людзей. Першым, каго ён прыцягнуў найбліжэй да сябе й да нацыянальнае справы, знайшоўшы яго яшчэ ў сваёй сям'і, быў ягоны малодшы брат Антон (нарадзіўся 30 студзеня 1884 г. у тых-жа Шаўлях, тады Ковенскае губ., што й Іван, загінуў у савецкіх канцлягерах — 1946 г. дата сьмерці паводля Беларускае Савецкае Энцыкляпэдыі, том 6, б. 444 — на гэтай-жа балонцы кароткая даведка пра яго й пра Івана).

У самым маленсьцьве браты шмат вадзіліся й нат біліся міжсобку, як успамінаюць іншыя сям'яне, але ў гадох гімназіяльных Іван усьведаміў Антона нацыянальна, прыцягнуў да сябе ды проста зрабіў сваім дапаўненьнем, найперш— „сваім пяром", як кажа Дубейкаўская ў сваіх успамінах, бо сам Іван. „ня любіў пяра, ягоныя думкі плылі гэтак хутка, што пяро не пасьпявала за імі, але ён меў дар слова і ўмеў запаляць слухачоў..." Найлепшую характарыстыку Івана Луцкевіча з гэтага боку пакінуў Максім Гарэцкі ў сваіх успамінах у віленскім зборніку (б. 42):

„Вуха, прызвычаенае да славеснай размазьні, бясконца-нуднай гутаркі ці маркотнай маўклівасьці замучаных ідэйнасьцю грамадзян Беларусі, было прыемна зьдзіўлена сьціснутай, кароткай і цэннай, а галоўнае энэргічнай гутаркай гэтага правадыра беларускага руху. Пры ўсім тым мова яго — жывая й літаратурная беларуская мова... Яго мова захоплівае, даець веру й надзею, будзіць паснулыя сілы. Яго вочы гарацц і прыкоўваюць да намаляваных яго словам абразоў, існуючых і ідэальных. Тыя йснуючыя абразы паўстаюць і сьціраюцца, родзяць дурную няверу, што гэта жывы чалавек і чалавек—Беларус так гаворыць... А тыя ідэальныя абразы здаюцца дасьціглымі, бо прахопішся й відзіш ня сон, а запраўднасьць, што жывы чалавек і чалавек-Беларус так гаворыць...

„Гутарка Івана Луцкевіча была зазвычай цікаўная й цэнная, бо ён меў багатае навуковае знацьцё, і аж да сьмерці йшоў разам з сусьветным прагрэсам. Хацелася іноды схапіць карандаш і запісваць за ім, каб ды ня згубілася, бо сам Іван Луцкевіч работу свайго пяра адкладаў на пазьнейшы, вальнейшы ад чорнае працы час — усё адкладаў, і забраў ад нас сваё знацьцё з сабою ў труну".

Іван часамі рабіў накіды артыкулаў, а Антон тады іх апрацоўваў. Гэтыя артыкулы, апрацаваныя паводля накідаў Івана Луцкевіча ягоным братам Антонам, звычайна падпісваліся псэўданімам „Іван Мялешка" (у газэце „Гоман", у якой працавала Дубейкаўская),

**(Працяг на 2-ой бач.)**

### Да беларусаў Беластока

Беларусы! Запісвайце сваіх дзяцей на ўрокі беларускай мовы ў беластоцкіх школах. Толькі ад вашай патрыятычнай волі залежыць тое, ці родная мова зойме належнае ёй месца ў іх. Іншых перашкод няма і не можа быць.

Лёс народу і лёс яго мовы – гэта адзін лёс. Як няма мовы, то і няма народу. Не пакідайма ж мовы сваёй беларускай, каб не памерці!

Дзеці нашы – гэта дзеці духа нашага. Іначай – не мы ім бацькі. Мова наша сардэчная ў доме нашым яднае сям'ю нашу. Беларуская мова ў школе дасць дзецям нашым свядомасць свае гісторыі і годнасць сваю непазычаную.

Хто не шануе свайго, той нездольны цаніць іншае, небеларускае. Непатрыёт не можа быць інтэрнацыяналістам. Яшчэ ніхто не стаў патрыётам і чалавекам паціху. Нам трэба беларусамі звацца перад усімі!

Калі не будзем тут сабою, будзем нікім.

Дзіця мале нарадзіць. Яго трэба яшчэ выхаваць. Яно павінна вырасці нашым, беларускім.

Мы крыўдзім сваё дзіця, пазбаўляючы яго роднай мовы. Яно адчувае сябе на другім беразе ад нас, бацькоў. Мы пасылаем яго на той бераг. Чаму?

Дзіця наша мае права на тое, каб ведаць карэнні паходжання свайго. Радзіму сваю духоўную! Нам гэта няважнае або малаважнае. Чаму так?

Першай справай пасля хлеба, пра якую павінен падумаць кожны народ, – гэта якраз навучанне дзяцей роднай мове і гісторыі. Немагчыма існаванне народу без усведамлення ім уласнага мінулага.

Нам, беларусам Беластока, трэба беларускай мовы ў школах Беластока. Наша будучыня, як нацыі тут, у дзецях нашых. Гэта яны панясуць далей, у свет, гонар наш і культуру нашу. Мы, як бацькі, будзем увасkрасаць у жыцці іх дарослым. Спадчына наша беларуская не можа прапасці марна разам з нашым адыходам з жыцця.

Няхай дзеці нашы і ўнукі гавораць па-беларуску!

Праўленне гуртка
Беларускага грамадска-культурнага таварыства
ў Беластоку

### ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэсьнем мы, душою ўпаўшы, зьвяўшы,
Каб выйсьці ў сьвет, як нейкі здольны род...
Сягоньня мы жывём і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асьляпляючаю нас,
І што сказаць самым сабе і людзям,
Ня ведаем, ня можам, хоць і час.
Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў,
Шукаем, як сьляпыя, ня згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.
Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць ня ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, а штось і мучыць і пячэ.
Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.
А хтось далёкі, ці хтось можа блізкі
Засеў за наш бясёдны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.
Нявольніцтва й жабрацтва так нас зьела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць сьмела
Ня сьмеем, стоптаныя на пясок.
Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасьць!
А там — „Паўстань прakляцьцем"... Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разьбежнасьць...
Бяз толку крыльлем лопаем, як цьмы.
О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны —
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?
Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпыну выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.
Зь кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у сьвет — скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сьветкі,
Што мы — ня мы, што нехта вінават...
І так жывём, сябе саміх ня знаўшы,
Учора, сяньня лазім між канаў...
Няўжож-бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом праклятты заламаў?
Няўжо нас не аб'ясьніць розум ясны,
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч бураломны: вызваленьне з пут!?

Менск, 24. 1. 1922

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 12.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 12.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ВАРШАЎСКАЯ ГАЗЭТА ПРА БЕЛАРУСАЎ

Тыднёвая партыйная газэта „Палітыка" ў нумары 49-ым (5. XII. 1981) зьмясьціла вялікі артыкул праф. Ежага Тамашэўскага пад заг. „У супольным доме" пра беларускую меншыню ў Польшчы. Праф. Тамашэўскі бароніць права Беларусаў на перахоўваньне й разьвіваньне свае нацыянальнае культуры ў Польшчы, сваё школьніцтва. Беларусы, піша аўтар, сьведамыя свае мінуўшчыны: яны адчуваюць сябе нашчадкамі першадрукара Францішка Скарыны, ведамае паэткі Алёйзы Пашкевіч (Цёткі), выдатнага палітыка міжваеннае пары Браніслава Тарашкевіча; памятаюць яны таксама, што зь беларускае шляхты паходзіць Тадэвуш Касьцюшка ды шмат іншых ведамых Палякоў.

Праф. Тамашэўскі прызнае, што ня лёгка даводзіцца сяньня ў Польшчы нацыянальным меншыням, у тым ліку й Беларусам. Беларусам, кажа ён, канечна патрэбная дапамога, гэта значыцца, „сьведамая палітыка дзяржавы, якая створыць выгодныя ўмовы культурнага разьвіцьця Беларусаў — паўнапраўных грамадзянаў Рэчыпаспалітае.

Аўтар піша далей пра заняпад у няспрыяльных умовах беларускага школьніцтва ў Польшчы, знаёміць чытача з мэмарандумам Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства да былога першага сакратара кампартыі Польшчы Станіслава Кані (гл. „Беларус" №288, сакавік 1981 г). Праф. Тамашэўскі нагадвае, што пісаў пра гэтыя справы Сакрат Яновіч у „Газэце Вспулчэснай" (3-4-5 красавіка 1981 г.). Часта ў сваім артыкуле ён спасылаецца таксама на выказваньні беларускае газэты ў Беластоку „Ніва" (зь якімі яго пазнаёмілі ды іншымі матар'яламі дапамаглі Аляксандра Бэргман і Сакрат Яновіч, за што аўтар дзякуе абаім у канцы артыкулу).

Як выглядае з таго, што піша праф. Тамашэўскі, беларускае пытаньне ў Польшчы шырака дэбатуецца цяпер у друку, пастаўленае на парадак для дзейнасьцяй БГКТ і высілкам паасобных адзінак. Вакол гэтага пытаньня вядуцца спрэчкі, ёсьць разыходжаньні, але выяўляецца адначасна й прыхільнасьць да Беларусаў.

„Ходзіць пра Беларусаў думка, — піша праф. Тамашэўскі, — што яны вытрывалыя, цярплівыя й працавітыя. Дык напэўна беларускім дзеячом стане цярплівасьці на паступовае адваяваньне страчаных пазыцыяў у залежнасьці ад рэальных магчымасьцяў краю".

Праф. Тамашэўскі выказаўся за тое, каб у розных унівэрсытэцкіх гарадох Польшчы паўсталі таварыствы беларускіх студэнтаў, якія папулярызавалі-б беларускую культуру й традыцыі сярод польскага грамадзтва, што лепш дапамагло-б Паляком зразумець асаблівасьці Беласточчыны, дзе, кажа аўтар, „Беларусы й Палякі жывуць у супольным доме".

„Варта таксама задумацца, — піша праф. Тамашэўскі, — над формамі супрацоўніцтва прынамся некаторых інстытутаў Польскае Акадэміі Навукаў зь беларускім навуковым асяродкам у Беластоку. Там паўсталі цікавыя гістарычныя дасьледы, блізу ня ведамыя польскім гісторыкам. Магчыма, стан кадраў дазволіў-бы нат на стварэньне Беларускага Навуковага Інстытуту ў Польшчы; на гэта ёсьць прэцэдэнт, які вытрымаў экзамін праз колькідзесят гадоў існаваньня: Жыдоўскі Гістарычны Інстытут у Польшчы".

Праф. Тамашэўскі нагадвае, што блізу ўсе аўтары артыкулаў ды лістоў у рэдакцыю ў вабмяркоўваньні беларускага пытаньня — а гэткіх, кажа ён, ёсьць шмат — „падзяляюць становішча Сакрата Яновіча: шмат стагодзьдзяў Беларусы жывуць у межах Польшчы. Бывалі ў мінуўшчыне канфлікты, куды часьцей — братняе сужыцьцё абодвых народаў. Нельга сабе сёньня ўявіць польскае культуры, польскіх нацыянальных традыцыяў бяз твораў, што паўсталі з натхненьня беларускае зямлі — ад Адама Міцкевіча да Часлава Мілаша. Разьвіцьцё беларускае культуры ў Рэчыпаспалітай патрэбнае ня толькі Беларусам; патрэбнае ўсім Паляком".

**Я. З.**

# "ЯК ДУХ ЗМАГАНЬНЯ БЕЛАРУСІ"

**(Працяг зь першай бач.)**

тымчасам як свае собскія артыкулы Антон Луцкевіч найчасьцей падпісваў псэўданімам „А. Навіна" (або ініцыяламі гэтага псэўданіму — А. Н.). У першых гадох выданьня „Нашае Нівы" зрэдку зьяўляліся ў ёй і нататкі пяра самога Івана Луцкевіча, фатаздымкі беларускіх краявідаў зь ягонае калекцыі — пад псэўданімам „Шчасны", пад якім ён выступаў часам і палітычна (прыкладам, на канфэрэнцыі нацыянальных сацыялістычных партыяў Расеі ў 1907 г., (пра што яшчэ будзе далей на сваім месцы).

Дык у брату Антону Іван Луцкевіч знайшоў і ўзгадаваў сабе тое „пяро", якое магло ягоныя ідэі адпаведна класьці на паперу. І сам Антон заўсёды гаварыў пра Івана як пра свайго правадыра, а ня толькі брата (успаміны Антона Луцкевіча „За дваццаць пяць гадоў (1903-1928)", выдадзеныя ў Вільні Беларускім Выдавецкім Таварыствам у 1928 г., адчыняюцца гэткаю прысьвятаю: „Пасьвячаю сьветлай памяці ІВАНА — Правадыра, Таварыша, Брата").

І можна сказаць, што фактычна асоба Івана Луцкевіча поўнасьцяй выявілася ў дзьвюх постацях — ягонай собскай і ягонага брата Антона.

Юльляна Дубейкаўская дала гэткую характарыстыку Івана й Антона ў сваіх успамінах:

„Іван усім кіраваў, а Антон рабіў усю пісьмовую працу, меў хуткае пяро й добры стыль і быў працавіты, як мурашка. Антон быў спакойны, рэдка выяўляў сваё нездавальненьне, быў мяккога характару й лёгка паддаваўся ўплывам. Зь ім было лёгка працаваць; ён, як і Іван, быў адданы сваёй беларускай працы. Але ў яго характары ня было тэй энэргіі, таго палёту і ўздыму, хоць быў вельмі амбітны, як у Івана; Антон ня ўмеў так пазнацца на людзях, ці гэтак іх заахвоціць да працы, як гэта рабіў Іван, аднак і Антон быў добры, сумленны працаўнік беларускае справы, але, нажаль, ня меў кіраўнічых уздальненьняў і пачуцьця ў палітыцы, што асабліва выявілася, калі падчас хваробы й пасьля сьмерці Івана ён сіліўся заступіць брата. Але працуючы разам, браты Луцкевічы дапаўнялі адзін аднаго".

У цэлай гісторыі, сярод асобаў, што адыгравалі ў ёй тую ці іншую выдатную ролю, цяжка знайсьці гэткі прыклад родных братоў, якія выступалі-б як адна асоба. Зь гісторыі старавечнага Рыму ведамы выпадак братоў Гракхаў, Тыбэрыя й Гая, народных трыбунаў, але дзейнасьць іхная была хоць і аднадушнай, ды не адначаснай (дзейнасьць малодшага брата Гая праходзіла па сьмерці старэйшага Тыбэрыя) і большай энэргічнасьцяй, разнабаковасьцяй талентаў і красамоўствам адзначаўся малодшы брат, а не старэйшы. Ведамыя таксама браты Ганкуры, Эдмон і Жуль, францускія пісьменьнікі XIX в., але гэта былі празаікі-раманістыя, а не палітыкі, і старэйшы брат пераджыў малодшага, а не наадварот, як у нашым выпадку братоў Луцкевічаў.

**(Далей у наступным нумары)**

**Ант. Адамовіч**

# ХАРАКТАР ПОЛЬСКАГА КАТАЛІЦЫЗМУ

На балонках польскае парыскае „Культуры" апрача ведамых польскіх і іншанацыянальных аўтараў у вольным сьвеце пішуць таксама тыя, што жывуць за зялезнай заслонай, у сёньняшняй, падпарадкаванай Маскве, Польшчы. Толькі некаторыя зь іх, як прыкладам ведамы пісьменьнік і публіцысты Стэфан Кісялеўскі (Кісель), падпісваюць свае артыкулы запраўдным прозьвішчам. Іншыя, баючыся рэпрэсіяў з боку камуністычных уладаў, друкуюць іх пад псэўданімамі. Летась у сваім сакавіковым (3/402-ім) нумары „Культура" зьмясьціла вельмі цікавы, абшырны артыкул Тыматэвуша Клемпскага (яўны псэўданім) пад загалоўкам: „Маці сьвятых Польшча".

Клемпскі піша, што пад гэткім загалоўкам была ў 1707 годзе выдадзеная кніга Флярыяна Ярашэвіча, у якой ён на кажны дзень году прапанаваў польскага сьвятога. „Але дзеля таго, што да гэнага часу Царква была кананізаваўшы ўсяго толькі крышку больш як дзесяць нашых суродзічаў, — піша Клемпскі, — дык аўтар штукаваў недаборы, увекавечваючы слаўнейшых каралёў і ваяўнікоў, сьвецкіх і манашых духоўных асобаў, ды навет матронаў, якія, прыкладам, сваю сьвятасьць прадэманстравалі тым, што ў часе бясёдаў дапускалі да свайго стала бедных паненак на выданьні".

Ня буду пераказваць зьместу ўсяго артыкулу Клемпскага, бо гэта заняло-б шмат месца. Хачу адно падчыркнуць ягоныя некаторыя, цікавыя для беларускага чытача мясьціны.

Аўтар у сваім артыкуле вельмі шмат месца прысьвячае каталіцкай Царкве ў Польшчы, а фактычна дзейнасьці ейнае гіерархіі, і польскаму каталіцызму наагул ды ягонай ролі, пазытыўнай і нэгатыўнай, якую ён адыграў у мінуласьці й адыграе цяпер у Польшчы. Ён уважае, што каталіцкая Царква ў даўнай Рэчыпаспалітай была ў вялікай меры апартуністычнай. „І нічога тут не паможа гледзішча адзінак, — піша ён. — У сваёй пераважаючай бальшыні яна замала бараніла прыгнечаных, зашмат кадзіла магутным на гэтым сьвеце, ня супрацьставілася нутраному развалу дзяржавы, зусім наадварот — дамагалася да самахвальнага шляхоцкага хору, бо гэта была Царква шляхоцкая. Пасьля Рэнэсансу не зьяўляюцца ў ёй выдатныя прадстаўнікі мяшчанства . . ."

Пасьля сьвятых мучанікаў Вайцеха (Чэха з паходжаньня) і Станіслава Шчапаноўскага прыйшла радоўка на кананізацыю прадстаўнікоў каралеўскага, княскага, ці ўрэшце ледзь магнацкага (сьв. Станіслаў Костка) родаў на сьвятых-патронаў нацыянальных.

„Але гэтай 'Маці сьвятых Польшчы' не стае яшчэ таксама запраўднага сьвятога селяніна ці работніка, — піша аўтар. — Гэта таму мы былі змушаныя імпартаваць аж з Сэвілі сьв. Ізыдара, каб прыбраць яго ў сялянскую кракаўскую ці куяўскую вопратку, або на народную ноту перастроіць праскага каноніка — Яна зь Непамук".

Клемпскі далей у сваім артыкуле піша, што пасьля рэлігійнай талеранцыі ў даўнай Рэчыпаспалітай, дзякуючы якой „не палілася кроў і не загарэліся вогнішчы", каталіцкая Царква зь цягам часу ставалася, асабліва па Трыдэнцкім саборы (1545-1563 гг.), штораз больш неталеранцыйнай, тон ейных палемікаў зь іншаверцамі (пратэстантамі) — штораз больш грубіянскім: заміж аргумэнтаў рабіліся абразьлівыя выпады. Езуіты, якія заснавалі школьніцтва й пасьля самі-ж давялі яго да заняпаду, — піша аўтар, — „мачалі пальцы ў вулічных хваляваньнях чэрні". Яны рыхтавалі ім грунт сваймі казаньнямі. Неталеранцыйны кардынал Газыюш вёў асабліва зацятае змаганьне супраць пастановы Варшаўскае Канфэдэрацыі з 1573 году — акту, які „ўстанавіў вечны рэлігійны мір паміж рознымі веравызнаньнямі". Ад Газыюша пачалася ў Рэчыпаспалітай рэлігійная неталеранцыя, якая трывае ў Польшчы да сёньняшняга дня.

Рэлігійная неталеранцыя йшла ў пары з ксэнафобіяй (ненавісьцяй да чужынцаў). „Рэчпаспалітая заскаруплівалася ў сабе штораз больш. Заміж даўных патэнцыяльных саюзьнікаў усё шчытней пачалі абкружаць яе ворагі, таксама ў сэнсе псыхічным. На руінах адкрытай культуры XVI-га стагодзьдзя, — кажа аўтар, — нараджалася школа пагарды, падшытае страхам. Немец быў дурны й подлы, грубіянскі й захопніцкі. Расеец быў здрадлівы, жорсткі, помсьлівы. Частка адыёзнасьці перайшла на Украінцаў, а навет на ў нічым невінаватых, лагодных Беларусаў". У гэтым месцы аўтар артыкулу выказвае сваё задаваленьне й пахвалу „Культуры" за тое, што яна „ўжо шмат гадоў вядзе актыўную прапаганду нацыянальнае антыксэнафобіі". Пасьля гэтага спыняецца на „надзвычай важным аспэкце гэтае ксэнафобіі, ськіваванай унутро: на антысэмітызьме". Ён катэгарычна ды з поўнай адказьнасьцяй сьцьвярджае, што польскі антысэмітызм — першнаперш сялянскі й дробнамяшчанскі, а таксама парахвіяльны — надалей існуе, ён пераджыў самых польскіх Жыдоў. Пры гэтым аўтар прыгадаў, як, калі ён быў яшчэ малым хлапцом, спавядаўся ў касьцеле ды як ксёндз накрычаў на яго за тое, што ён не сказаў на споведзі аб тым, што купляе цукеркі ў Жыда. Сярод польскага каталіцкага духавенства надалей пануе, кажа ён, дух ксэнафобіі й неталеранцыі, вынесены з духоўных сэмінарыяў. У міжваенным пэрыядзе падтрымаў гэты дух ды паглыбляў яго сярод сваіх чытачоў „шматтыражны аўтэнтычна рэакцыйны й цемрашальскі каталіцкі друк".

Ужо ў XVII-м і ў першай палавіне XVIII-га стагодзьдзя пашыралася інтэлектуальнае сплюшчваньне польскага каталіцызму. „Польская Царква ў некаторых пэрыядах выразна, адкрыта судзеіла інтэлектуальнаму заняпаду. Ейнай мэтай ставаўся ананімны, у меру магчымасьці пазбаўлены мэнтальнай дыфэрэнцыяцыі натоўп вернікаў, што сьлепа верылі ў тое, у што ім кажуць верыць, ды выконвалі, няважна што крыху рытуальна-мэханічна, некаторыя ўскладзеныя на іх збаўленныя абавязкі".

Адзін зь вялізарнага ліку польскіх парадоксаў — тое, што каталіцкая Царква ў сёньняшняй Польшчы пазбаўленая камуністычнай уладай свае вялікае зямельнае маемасьці, дзякуючы шчодрасьці вернікаў, эканамічна стала моцна на ногі. Гэты свой эканамічны статус Царква заўдзячвае свайму маналітнаму становішчу ў польскім грамадзтве, якое бачыць у ёй „адзіную афіцыйную інстытуцыю супраціву накінутай народу мане й няволі". Не падлягае сумляваньню, што, дзякуючы маналітнасьці свае пазыцыі, Царква ў сёньняшняй Польшчы сталася „канечна патрэбным палітычным элемэнтам, абаронцам народу перад партыйна-дзяржаўнай уладай, сілай, зь якой змушаныя лічыцца ня толькі Каня, але й ягоныя маскоўскія гаспадары".

Стараючыся, як ён кажа, „аб'ектыўна ўвідавочніць патэнцыяльныя небясьпекі, або тыя, што ўжо паўсталі, каб роля польскага каталіцызму засталася тэй роляй-маяком, якой яна была ў даўнай і нядаўнай мінуўшчыне", Клемпскі, між іншага, зварачае ўвагу чытача на адну з выяваў інтэлектуальнага заняпаду — нацыяналізм ува ўсіх ягоных варыянтах. Ён уважае, што „запраўдны патрыятызм, не абцяжаны нацыяналістычнымі напластаваньнямі, павінен мець, празь любасьць да свайго народу й краю, калі ня любасьць, дык прынамся разуменьне ды пашану да іншых народаў і краёў... Ня польскія патрыёты — тыя, 'патрыятызм' якіх выяўляецца ў ненавісьці й пагардзе да ўсіх і да ўсяго, што ня польскае. Гэтае ненавісьці вучаць нас партыйныя лідэры, спрытна маніпулюючы старымі траўмамі". Гэта яны, паводля аўтара, выклікалі хвалю антысэмітызму, што пракацілася ў Польшчы ў 1968 годзе.

„Ня лепш выглядае справа з нашымі гэткімі нязначнымі, гэтак палітычна нягрознымі меншынямі, піша Клемпскі. — Я разумею, што дыялёг з Украінцамі цяжкі, бо яны так моцна зацяліся ў сваіх крыўдах, што гэта мяжуе з паранояй. Але тым барджэй мы павінны падаць ім руку, зрабіць гест, якога наш епіскапат гэтак мудра не завагаўся зрабіць у бок Немцаў. Затое **варожасьць да Беларусаў на** Беласточчыне, ня кажучы ўжо пра зусім рэліктавыя групы Лятувісаў на Сувальшчыне, **выглядае на параною — у гэтым выпадку з нашага боку.** І тут, нажаль, мушу сказаць уголас: гэты раз не кажу пра патэнцыяльную небясьпеку, але пра факт ужо дакананы — польская Царква шматразова, празь вялізарную грамаду сваіх працаўнікоў на розных ступенях гіерархіі, суўдзельнічала ў культывацыі гэткага роду нацыяналізмаў, якія могуць прынесьці нам адно шкоду, больш — ганьбу".

Артыкул Тыматэвуша Клемпскага ў „Культуры" выказвае цьвярозыя думкі, нажаль, ня шмат каго з Палякоў у сёньняшняй Польшчы. Падобна думаючых Палякоў яшчэ менш на эміграцыі. Варожасьць да Беларусаў на Беласточчыне выяўляецца ў заціскаиьні польскімі адміністрацыйнымі ўладамі беларускага арганізацыйнага й культурнага жыцьця, асабліва школьніцтва, аб чым вымоўна сьветчыць пазалеташні мэмарандум Галоўнае Управы Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Беластоку быламу першаму сакратару ЦК ПАРП (польскай кампартыі) Станіславу Каню. З артыкулу Т. Клемпскага даведваемся, што ў гэтым заціскаиьні бярэ таксама актыўны ўдзел польская каталіцкая Царква.

**Уладзімер Брылеўскі**



# ДА ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ ПОЛЬШЧЫ

Дайшоў да нас нядаўна з Польшчы машынапісны экзэмпляр (напісаны польскай лацінкаю) заклік да праваслаўных Беларусаў. Заклік датаваны 14. VIII. 1981 г. і мае дапіску „Прачытай, перапішы і перадай другому". Ніжэй зьмяшчаем поўны тэкст гэтага звароту, пакідаючы някранутай ягоную мову.

***

БЕЛАРУСЫ! ПРАВАСЛАЎНЫЯ!

У нашай краіне адбываюцца вялікія зьмены, а мы, традыцыйна, дрэмлем і наша, мужыцкая палахлівасьць і асьцярожнасьць не дазваляюць нам зьлезьці зь печкі і пачаць жыцьцё так, як трэба сучаснаму чалавеку.

Вопратку мы ўжо памянялі, многія з нас жывуць у горадзе і нават езьдзяць за граніцу. Але вельмі малая частка нас зразумела тое, што: каб быць вартасным чалавекам, то ўсяго гэтага яшчэ мала.

Дарагія! Не ўпакоўка сьветчыць аб тавары. Каб быць кімсьці, трэба дбаць пра душу сваю ды інтэлект. З розумам у нас пакуль што ня так дрэнна, прычакалі мы ўрэшце і сваёй інтэлігенцыі (хоць і гэта праблематычнае), але з душою, братцы, у нас справа зусім паганая: устыдаемся роднай мовы, ня ведаем сваей гісторыі і культуры, табунамі прэмся ў каталіцызм, самі без аніякага прымусу апалячваем уласных дзяцей. Адным словам, мяняем бясцэннае і непаўторнае, створанае нашым народам праз вякі, пачэрпнутае з праваслаўных і візантыйскіх крыніц — на пустое і чужое. Трэба прачнуцца! Яшчэ ня позна! Сьвядомыя Беларусы арганізуюцца ў Праваслаўнае Брацтва, Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў, Грамадскае Аб'яднаньне Аховы Помнікаў Беларускае Культуры. Старэйшыя і моладзь павінны падключацца да іх дзейнасьці. Трэба абавязкова і адна віць Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства, затаптанае ды зацкаванае, учыніць зь яго жывую і дынамічную арганізацыю ў карысьць нашага люду. Ніхто з нас ня супроць сацыялістычнай уладзе, і цяпер, у гэты вельмі неспакойны час, мы не страйкуем, не падымаем мецяжу, а працуем рук сваіх не пакладаючы. Ворагам нашым ёсьць самапагарда наша, горшасьць, угавораная нам!

## Ў БАПЦ:
# ЛІСТ АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ

З нагоды сьвята Хрыстовага Нараджэньня Архіепіскап Мікалай выслаў прывітальны ліст Мітрапаліту Андрэю, у якім таксама просіць Найпачасьнейшага Мітрапаліта адклікаць сьвецкія суды ў парахвіі БАПЦ у Гайленд Парку ў штаце Нью Джэрзі.

„Дарагі Ўладыка, — зварачаецца да Мітрапаліта Андрэя Архіепіскап Мікалай, — трэба здабыцца на сільную добрую волю, каб настаў супакой у нашай Сьвятой БАПЦ. Нашыя вернікі гэтага супакою ў вялікім перажываньні вельмі моцна чакаюць ад сваіх ярархаў і радасна прывітаюць вестку, калі настане супакой. Пры добрай волі можна найбольшае благоцьце павярнуць на дабро.

„Вы, Уладыка, і толькі Вы, можаце адклікаць сьвецкі суд. З добрае волі сваё, неадкладна ўчынеце гэта, бо адклікаўшы сьвецкія суды, Вы напоўніце радасьцяй вернікаў БАПЦ, і яны будуць радавацца ў радасны дзень Раства Хрыстовага. Думаю, што й Вы хацелі-б бачыць іх радаснымі. У гэтым поўнасьцю падтрымваю Вас.

„Пасьля адкліканьня падайце дзень, час і месца й мы спаткаемся ды разам абгаварыўшы справу, падпішам умову, што пастановы Нарадаў Епіскапаў БАПЦ ёсьць важнымі й маюць моц толькі тады й тыя, якія будуць падпісаны ўсімі законнымі епіскапамі БАПЦ. Пасьля падпісаньня гэтае ўмовы, абяцаю Вам маё поўнае супрацоўніцтва з Вамі. Як бачыце, я не вымагаю нічога перавышаючага другіх епіскапаў. Чакаю радаснае весткі для ўсіх вернікаў БАПЦ. Хрыстос Нарадзіўся!

„28 сьнежня 1981 году, Таронта, Канада. — У Богу пакорны Архіепіскап Мікалай".

Да ліста свайго Архіепіскап Мікалай далучыў копію бюлетэню „Царкоўны Пасланец", нр. 1/10 за сьнежань 1981 г., выданага парахвіяльнай радай катэдральнага сабору БАПЦ у Брукліне (рэдактар і выдавец сп. Б. Данілюк). Бруклінская БАПЦ, у якой невялікая групка вернікаў у моц пастановы сьвецкага суда здабыла выключнае права гаспадарыць над царкоўным будынкам, выявілася няздольнай аплачваць утрыманьне будынку. „Царкоўны Пасланец" піша: „у выніку працяглых страйкаў і байкотаў (гэта значыцца, у выніку адмовы бальшыні прыхаджанаў наведваць царкву — Рэд. „Б") дойдзе **да нястачы грошай на аплату выдаткаў Грамадзкага Цэнтру, а ў сьлед і да ягонае ліквідацыі".**

Вось чым канчаюцца суды: суд у Брукліне „выйгралі", але прайгралі пераважную бальшыню парахвіянаў, а цяпер прайграюць і будынак.

„Царкоўны Пасланец" просіць ратунку: „Найменшае, што наш грамадзкі здабытак змога выратаваць — гэта шчыры натуг вярнуць страчаныя працягам году ненаведваньня царквы ахвяры на талерку, аплата належных складак, шчодры каляндні дар цяпер ды ўзмоцненая падтрымка грашыма ў будучыні".

Вельмі сумлеўна, ці „шчыры натуг ... на талерку" ды іншае, рэкамэндаванае „Пасланцом", выратуе Грамадзкі Цэнтар у Брукліне, калі ня дойдзе да прымірэньня паміж гіерархамі ды сьвятарамі БАПЦ, дзе канфлікт пачаўся, а сьледам за імі й паміж прыхаджанамі. Бруклінскі прыход—навочны прыклад, чаго вартае хаджэньне па сьвецкіх судох ды судовыя „перамогі". Суды да згоды не вядуць.

Ёсьць небясьпека, што да гэткае-ж „перамогі" можа дайсьці і ў парахвіі БАПЦ у Гайленд Парку, калі справа ня будзе забраная з суда ды ня дойдзе да згоды паміж гіерархамі, да чаго заклікае Мітрапаліта Архіепіскап Мікалай ды чаго спадзяюцца й прагнуць парахвіяне.

У лісьце да вернікаў БАПЦ Архіепіскап Мікалай, паінфармаваўшы пра свой ліст да Мітрапаліта Андрэя, піша: „Я ведаю, як ён адгукнецца на яго. Хочацца верыць, што ён развяжыць ды накіруе справу на дабро".

Дай Божа!

## „НІВА" ПРА ДАНЧЫКА

У беластоцкай газэце „Ніва" (6.XII.81) Лявон Крывіцкі ў артыкуле пра Максіма Багдановіча, падаўшы з запісу сп-ні Яніны Хаханоўскае, што расказала ейная мама Эмілія Шабуня (Баба Міля) пра побыт Багдановіча ў Ракуцёўшчыне ў 1911 годзе, піша:

„Чытачом" 'Нівы' будзе, пэўна, цікава даведацца, што ўнук Яніны Аляксандраўны — Данчык (Багдан Андрусышын) жыве, як некалі Багдановіч, далёка ад бацькаўшчыны ў ЗША, з той розьніцай, што ён і нарадзіўся на чужыне. Але й Данчык жыве думкамі пра Беларусь. Ён здольны самадзейны сьпявак, удзельнічае ў канцэртах, найграў пласьцінку беларускіх песень, сябруе зь вельмі папулярным ансамблем 'Песьняры' і мае ў сваім рэпэртуары вядомы раманс на словы Максіма Багдановіча 'Зорка Вэнэра'. Сёлета ён наведаў Беласточчыну, даваў тут канцэрты і пра яго пісала 'Ніва' ў нумары ад 20 верасьня г.г.."

# ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ БЕЛАРУСІ

## ТАРОНТА (КАНАДА): 1000-ГОДЗЬДЗЕ І ДЗЕНЬ ГЭРОЯЎ

Сьвяткаваньне тысячагодзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі пачалося ўвечары 28-га лістапада малебнам падзякі, які адслужыў Архіепіскап БАПЦ Мікалай у царкве сьв. Кірылы Тураўскага. Таго-ж вечару ў царкоўна-грамадзкай залі адбылася акадэмія. Сп-ня Івонка Сурвіла ад імя галоўнае ўправы Згуртаваньня Беларусаў Канады прывітала прысутных ды асабліва паэтку Натальлю Арсеньневу. Ад Рады Беларускае Народнае Рэспублікі вітаў усіх Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Ён-жа чытаў і галоўны даклад, у якім падаў у вагульных рысах гісторыю нашага народу за апошняе 1000-годзьдзе. Старшыня Рады БНР выказаў непахісную веру, што беларускі народ зноў здабудзе сваю дзяржаўнасьць ды заклікаў усіх суродзічаў да высілку, каб наблізіць гэны дзень.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч прачытала заклік ад Беларускае Бібліятэкі ім Ф. Скарыны ў Лёндане аб помачы Бібліятэцы ды выказала жаль, што а. А. Надсон, які меўся быць на гэтай урачыстасьці, ня здолеў прыехаць дзеля нястачы часу па сьмерці Біскупа Сіповіча.

З нагоды сьвяткаваньня была наладжаная мастацкая выстаўка: працы Міколы Шуста — інкрустацыя саломкай (столікі кафэйныя, рамкі, шкатулкі); найвейшыя абразы Івонкі Сурвіла, пераважна на беларускія тэмы (галоўна алавік і афорт); скульптуры з дрэва Юркі Акулы (дыназаўр, лебедзь, павешанае калясо, галава ды іншае), якімі малады мастак зьдзівіў сваіх суродзічаў (пра гэтую выстаўку трэ было-б пісаць асобна).



„Анёл"-скульптура з дрэва Юркі Акулы

У нядзелю 29-га лістапада ўрачыстасьці пачаліся сьв. Літургіяй, якую служыў Высокапачэсны Архіепіскап БАПЦ Мікалай. Адбылася таксама паніхіда па Гэроях, што аддалі жыцьцё ў змаганьні за волю Беларусі. Добрае надвор'е паспрыяла, відаць, што прыбыло цімала суродзічаў і з правінцыі. Уладыка Мікалай у сваім казаньні зьвярнуў увагу на галоўныя слаўныя падзеі з тысячагадовае мінуўшчыны Беларусі ды заклікаў вернікаў аддана служыць Богу й справе вызваленьня нашага народу.

Па супольным абедзе ў залі грамадзкага цэнтру др. Барыс Рагуля прывітаў гасьцей і асабліва мастакоў. Ён-жа ад імя грамады выказаў спачуваньне сваяком нябожчыка Лявона Карыбы, сьветлую памяць якога ўшанавалі хвілінай цішыні.

Сп. Мікола Ганько гаварыў пра значаньне Дня Гэрояў, пра патрэбу руху. Трэба адзначыць, што прамова ягоная была добра прадуманая й апрацаваная, якую слухачы дружна ўхвалілі воплескамі.

Ад расейскіх дэмакратаў вітаў Беларусаў ведамы пісьменьнік і паэта сп. А. Гідоні, які сказаў, што як некалі былі між Расейцаў людзі — пераважна мысьляцелі, гэткія, як Герцэн — што падтрымвалі змаганьне за свабоду іншых народаў, гэтак і цяпер ёсьць такія людзі. Сп. Гідоні пажадаў, каб наступнае тысячагодзьдзе свабодная й незалежная Беларусь жыла ў міры побач з такой-жа Расеяй.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч прачытала цікавы й абшырны даклад пра Івана Луцкевіча й беларускае адраджэньне. З успамінамі пра брата Луцкевічаў выступілі Натальля Арсеньнева й др. В. Жук-Грышкевіч.

Др. Р. Жук-Грышкевіч паказала дыван і вопратку, вытканую прыгожым беларускім арнамэнтам, якую сп-ня Аляксандра Протас падарыла лёнданскаму музэю імя Ф. Скарыны.

Урачыстасьць, пасьля падзякі працавітым гаспадыням за абед, закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

**К.**

## АДЭЛЯІДА (АЎСТРАЛІЯ)

У нядзелю 29-га лістапада сьвята Слуцкіх Гэрояў спалучылася зь візытам у Адэляіду Ўладыкі Ізяслава*). Айцец Аўген Сітнік запрасіў яго супольна адслужыць сьв. Літургію. Гэтак, у царкве сьв. Ап. Пятра й Паўла БАПЦ адбылася архірэйская багаслужба ў суслужэньні ўкраінскіх сьвятароў а.а. Дзьмітрыя й Аляксандра. Царква была перапоўненая, бо на ўрачыстасьць былі запрошаныя ня толькі сьвятары, але і ўсе вернікі ўкраінскае царквы, на што яны ахвотна адгукнуліся. Паваўлічаны царкоўны хор выдатна сьпяваў пад кіраўніцтвам сп. М. Бурноса. Была таксама адслужаная паніхіда па ўсіх, хто аддаў сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну-Беларусь. У часе паніхіды стаяла ганаровая варта зь беларускім ды аўстралійскім сьцягамі й моладзь у нацыянальных беларускіх касьцюмах.

Акадэмію адчыніў сп. М. Бурнос, сакратар Фэдэральнае Рады. Мяшаны хор прасьпяваў „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" ды „Сьпі пад курганам гэрояў". Адбыўся супольны абед. Старшыня Беларускага Аб'яднаньня ў Паўдзённай Аўстраліі сп. Янка Ролсан павіншаваў усіх са сьвятам, прачытаў прывітаньні ад арганізацыяў ды зрабіў зьместоўны рэфэрат на тэму дня. Сп. М. Бурнос выканаў солё „О, Беларусь, мая шыпшына". З прывітальнымі прамовамі выступілі: а. Дзьмітры й а. Аляксандар. Уладыка Ізяслаў каротка пазнаёміў прысутных, у беларускай і ангельскай мове, зь гісторыяй Беларусі.

У мастацкай частцы мяшаны хор пад кіраўніцтвам сп. Бурноса выканаў колькі беларускіх песьняў. На заканчэньне праграмы нашая моладзь, хлапцы й дзяўчаты, выступілі зь песьняй „Ў садзе гуляла". Дзеці сп-тва Кандрусікаў, Лара й Юльлян, зачаравалі ўсіх выкананьнем пад акардыён бацькі песьняў „Люблю наш край", „Лявоніха" й „Беларусачка".

Беларускае Аб'яднаньне й парахвіяльная рада шчыра дзякуюць усім удзельнікам сьвята.

**Янка Яр**

**Ад рэдакцыі:** Епіскапства а. Бруцкага шырака аспрэчваецца сярод вернікаў БАПЦ, паколькі, кажуць крытыкі, у працэсе хіратанізацыі а. Бруцкага былі пагвалтаваныя каноны Праваслаўнае Царквы ды статут БАПЦ. Апрача гэтага, а. Бруцкі яшчэ да хіратанізацыі і ў мамэнт яе вёў дый дагэтуль вядзе судовую справу ў сьвецкім судзе супраць парахвіі БАПЦ у Гайленд Парку, гвалтуючы гэтым і маральныя прынцыпы і царкоўныя каноны.

## М. КУКАБАКА ЗАСУДЖАНЫ ЙЗНОЎ

Як паведамілі тэлефанічна аднаму з нашых дапішчыкаў у Лёндане (Ангельшчына) з Амнэсты Інтэрнашэнал, „М. Кукабака засуджаны на далейшае ўвязьненьне". Дэталяў тымчасам ня ведаем.

# МАКСІМАВА СЯБРОЎКА

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

**(Урывак з аповесьці пра Максіма Багдановіча „Пад лебядзіным знакам" Уладзімера Глыбіннага)**

На разьвітаньне перад домам ён яшчэ раз падняў яе высака і, як і там на беразе, зрабіў колькі колаў, трымаючы яе над галавой. Дзіцянё аж заходзілася ад захапленьня. Калі Максім зноў прыгадаў Яні абяцаньне сяброўства, яна з энтузіязмам пацьвердзіла, што будзе зь ім сябраваць усё жыцьцё. Доўга ня выпушчала ягонай рукі, а Максім жартаваў, каб ня здарылася, што да вячэры забудзецца сваё абяцаньне. Яна адмоўляла гэта.

— Цяпер я штадня буду глядзець на падораныя табою кветкі ды згадваць мілую дзяўчынку Яню.

Тая засьмяялася ад задавальненьня, і ўся гэтак і зазьзяла сьвятлом дзіцячае беспасярэднасьці.

Таго-ж дня на вячэру зыйшліся ўсе. Неўзабаве па захадзе сонца, на шэрай гадзіне, гасьцёўня дому Лычкоўскіх напоўнілася галасамі маладых жанок. Сярод іх вясёлага гоману вылучаўся гучным званочкам галасок дзяўчынкі Яні, якая не сядала на сваё месца за сталом, хаця-ж ёй было пастаўлена адмысловае высокае крэсла. Яна бегала па гасьцёўні ад аднаго канца стала да другога, часта падыходзіла да дзядзі Максіма ды паціскала яму руку, як-бы прыгадваючы тым, што яна верная свайму сяброўскаму абавязку.

Марыя з Аксёнай ажыўлена гутарылі зь Міляй і Ядвісяй, расказвалі пра Вільню, агульных знаёмых, навіны іхнага штодзённага жыцьця. Пакаёўка асабліва ветліва забаўлялася каля новых госьцяў, не абыходзячы ўвагай і дзьвюх маладых Лычкоўшчанак, зь якімі яна ўжо даўно зьвыклася як з дачкамі. Малую Яню, што доўга ніяк не сядала за стол, яна нейкім словам, адно ёй ведамым, усадзіла на высокае крэсла і абвязала яе сурвэткай. Калі яна шаптала ёй нешта на вуха, Яня пачынала сёрбаць з лыжкі страву і зь цікавасьцяй сачыць далей, чым тая казкавая дзея кончыцца.

Пасьля добрага пачастунку ды прагльнутае з нагоды новых гасьцей чарачкі ўсе яшчэ больш падвесяліліся. Прасьпявалі колькі песьняў. А тады Міля й Ядвіся, падтрыманыя Марыяй і Аксёнай, пачалі прасіць паэту нешта сваё прачытаць.

Максім ня змусіў доўга сябе прасіць. Ён ведаў шмат сваіх вершаў напамяць. Прыўстаў зь месца ды, стоячы ўпрытык стала, пачаў ціхім, але штораз мацнейшым і ўзвышаным голасам чытаць „Слуцкія ткачыхі". Перад слухачамі паўстаў абраз панскага палаца, куды бралісь вясковыя дзяўчаты, каб ткаць пэрсыдзкія паясы. Але поле й неба за вакном адцягваюць думкі дзяўчатаў да збожжа на родных палёх дзе сінеюць васількі, дзе рака зьзяе халодным срэбрам, а на сыходзе дня цямнее край зубчаты бору. І вось цягам доўгіх гадзінаў нявольніцкае працы прыгонныя дзяўчаты, забываючыся, міжвольна ткуць узор роднай кветкі — сіняга васілька.

Маладой душой слухачкі адчулі ідэю імкненьня да усяго прыгожага, што адпавядала кажнай чалавечай душы, якая цягнецца да ідэалу прыгажосьці. Верш усім прыйшоўся дападобы. Прасілі яшчэ чытаць. Максім прачытаў ім досыць даўгі твор пра дзяўчыну, што прыйшла да млынара на стары млын па дапамогу, „каб мог сукруху з сэрца збыць". Млынар нагаворвае замову, зьвяртаючыся да вадзіцы, каб тая забрала „важкі сум ад сэрца Кацярыны" і панесла ў мора-акіян. Каб адцяць усе дарогі звароту таму суму, млынар абвяшчае, што ставіць „тры тыны" ды замыкае іх моцна на замок, а ключ кідае у мора-акіян.

„Як са дна ключу ўжо не паднясца,
Так і гэтым словам ня мінацца."
I падносіць млынару дзяўчына
Яйкі ў рэшаце і палатніну.

Калі Максім чытаў вершы пра Вільню, Марыя і Аксёна асабліва ажывіліся і на іхных тварах засьвяціліся агенчыкі задавальненьня й высокае ацэны тых твораў. Як шматгадовыя віленчанкі, яны маглі належна ацаніць праніклівы урбанізм тых вершаў. Ядвіся Русецкая асабліва ацаніла высака трыялеты „Як птушка ў гібкіх трасьнікох" і „Калісь глядзеў на сонца я".

— Тут запраўды ў загадзя вызначанай форме, у колькіх радках адчуваецца вялікая думка і нахіл да красы, вечнае прыгажосьці, — сказала Ядвіся і засьвяцілася сваёй прывабнай усьмешкай. Яе падтрымалі маладыя Лычкоўшчанкі. Усе пагаджаліся, што ў паэты асаблівы талент, і кажны сам сабе ганарыўся, што выпадак зьвёў яго ў жыцьці з асобаю паэты, будучай зоркі на літаратурным небасьхіле Беларусі. Дарма, што яны ня надта знаюцца на літаратуры, а беларускай і пагатоў, сэрцам яны адчувалі, і жаночым інстынктам асобна, што тут яны цяпер слухаюць нязвычайнага чалавека. Нездарма-ж Антон і Іван зь Вільні паслалі яго сюды, каб быў бліжэй да народу й больш стварыў у вясковай цішы.

— Каб я была кампазытарам, — сказала Міля, — я паклала-бы тыя трыялеты і санэты на музыку. Надта-ж яны кранаюць сэрца.

Па праслуханьні рамансу „Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю" Марыя Лычкоўская сказала, што яна перапіша гэты раманс і будзе сьпяваць яго, як умее, на музыку собскае душы. Надта-ж ён ёй спадабаўся. А ў нас пабеларуску няма чаго сьпяваць, апрача вясковых песьняў. Вось і будзе гэта прыгожым дадаткам да нашага рэпэртуару.

Гэтак у цікавых гаворках і чытаньнях прайшоў той вечар і застаўся памятным надоўга. І толькі адна маленькая Янечка не ацаніла тае нагоды далучэньня да вялікага сьвету прыгожага: зморaная яна ўжо даўно салодка спала на каленях сваей маці, пакуль Міля ні агарнула яе рукамі і не падняла, каб ісьці класьці малую спаткі. Тая адчыніла на момант вачаняты, азірнула ўсю кампанію, пазяхнула ды зноў зачыніла іх. Час быў позны й хінуў да сну. Прыклад Яні прыгадаў усім, што і ім пара ўжо разыходзіцца. Тым больш, што дзень быў запоўнены актыўнасьцяй, якая не давала нікому змогі перадыхнуць. Усе рантам паўставалі, падзякавалі паэту за нагоду адчуць асалоду ад ягонага чытаньня сваіх твораў. За колькі часу ўсе былі ўжо ў сваіх пакоях.

Максім, узбуджаны падзеямі дня й вечара, доўга ляжаў у разважаньнях пра гэтых жанок, зусім не безнадзейных у сэньсе ўвагі й адчуваньня роднага слова. Гэта-ж вунь як рэагавалі на беларускія вершы, хоць чуюць іх мгчыма ўпяршыню. Так, ёсьць, значыць, моцная народная падстава для беларускае творчасьці й культуры. Ёсьць каму тварыць мастацкія вартасьці, каго варта ўздымаць на ўзвышшы сусьветнае культуры. З гэтымі думкамі ён і не заўважыў, як заснуў і ўжо спаў да раніцы, як забіты.

Наступнымі днямі Максім яшчэ часта гуляў у вясёлай кампаніі Ядвісі зь Міляй, Марыі й Аксёны ў ваколіцах Ракуцёўшчыны й Краснага. І заўсёды павадыром уперадзе насілася маленькая Яніна. Неаднаразова яна напрошвалася ў Максіма, каб ўздымаў яе вышэй галавы ды круціўся зь ёю. Упадабала яна назаўсёды гэтую для яе пацеху. Міля ведала замілаваньне малой Яні да дзядзі Максіма і не перашкаджала тэй гульні.

Калі маладыя госьцейкі ад'ехалі з Ракуцёўшчыны раней як пакінуў яе Максім, дык памяць ягоная доўга ўтрымвала постаці гэтых дзьвюх Беларусак, а наперадзе іх тую весялуху-непаседу, рухавую Яню, ягоную найлепшую сяброўку ў тэй Ракуцёўшчыне. Памяць аб ёй пасьля жывіла дзіцячыя вобразы ў творчасьці паэты красы.

**Уладзімер Глыбінны**

